# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ
Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы
*The Voice of the Church,* Published by the Council of the
Byelorussian Autocephalous Orthodox Church
401 Atlantic Ave., Brooklyn, New York, N.Y. 11217, U.S.A. Price $3.00

**No.58** **ВЯЛІКДЗЕНЬ—1986** **Год 31**

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*Ўсячэснаму Сьвятарству і ўсім Вернікам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы*

Хрыстос Уваскрос!

УВАСКРАСЕНЬНЕ Хрыстовае ёсьць несумненнае сьведчаньне аб тым, што абяцанае збаўленьне зьдзейсьнена, Праўда Божая задаволена, праклён, гнятучы род чалавечы ад часу падзеньня першых праайцоў, зьнішчаны, сьмерць страціла сілу. Уседасканалая ахвяра, якую Ісус Хрыстос сабою прынёс Айцу дзеля ўміласьціўленьня за грахі сьвету, папоўніла ўсе старазапаветныя ахвяры і зрабіла іх непатрэбнымі. Ісус Хрыстос быў Сам ахвяраю і першасьвяшчэннікам перад Айцом Сваім, і, як зусім выканаўшы служэньне, Ім успрынятае дзеля збаўленьня людзей, зрабіўся веч-



Мітрапаліт ІЗЯСЛАЎ
Першагерарх Б.А.П.Ц.

ным Хадайнікам, або Пасярэднікам паміж Богам і людзьмі, каб ратаваць веруючых у Яго, Збавіцеля сьвету.

Цяпер усім адкрыты вольны доступ да Бога Айца праз веру ў Госпада Ісуса Хрыста: перашкода, якую грэх палажыў паміж Богам і людзьмі, разбурана бязмежнымі заслугамі вечнага Хадайніка рыста Ісуса. Ніякі грэшнік няхай ня траціць надзеі на сваё выратаваньне, але з верай і надзеяй хай сьпяшаецца прынесьці шчырае пакаяньне перад Богам: бо ўваскросшы Хрыстос прынёс уміласьціўляльную ахвяру за грахі ўсяго сьвету, і таму — за грахі кожнага чалавека. „Дык вось няма цяпер ніякага асуджэньня тым, што ў Хрысьце Ісусе не паводле цела, але паводле Духа ходзяць" (Рым.8,1), навучае Апостал.

Сьвятло Ўваскрасеньня Хрыстовага раскрывае нам таямніцу нашага збаўленьня. Уваскрасеньне Хрыстовае ёсьць доказам і залогам таго, што веруючы ў Хрыста Збавіцеля і насьледуючы Яго вучэньню, і мы, хоць і памрэм, але ўваскрэсьнем да жыцьця вечнага. „Хто веруе ў Мяне, хоць і памрэ, жыць будзе. І ўсякі, хто жыве і веруе ў Мяне, не памрэ да веку" (Ін.11,25,26), гаворыць Хрыстос. „Калі-ж Дух Таго, Хто ўваскрасіў із мёртвых Ісуса, жыве ў вас, дык Той, Хто ўваскрасіў Хрыста з мёртвых, ажывіць і вашы сьмяротныя целы Духам Сваім, што жыве ў Вас" (Рым.8,11), павучае Апостал.

Такія вельмі радасныя надзеі дае нам уваскрасеньне Госпада Збавіцеля! Без надзеі на ўваскросшага Госпада Ісуса нашае зямное жыцьцё панурае і сумнае. Шмат бачым і зазнаем тут такога, што цяжка для думкі і для пачуцьця. Бачым як часта дабрадзейныя стогнуць пад прыгнётам смуткаў і няшчасьцяў; а тыя, што жывуць няпраўдай насалоджваюцца шмат якімі выгадамі і задаваленьнямі жыцьця. Гэты стан сьвету ёсьць панурым і смутным для нямаючых надзеі на будучае: такая ў ім нясталасьць і ператварэньне! Сьмяротныя людзі безупынна зьменьваюць адны другіх, падпарадкоўваючыся ўсеагульнаму закону сьмерці, і цэлыя народы і дзяржавы кіруюцца тым-жа парадкам.

Наш Беларускі Народ, хоць ужо даўгія гады церпіць няволю, прыгнёт, зьнявагу, не павінен аставацца бяз сьветлае надзеі на будучыню. Прыйдзе час калі ворагі страцяць сваю сілу, а наш Беларускі Народ, з волі Божае, зноў паўстане ў поўнай велічы сваіх слаўных прабацькоў, як за часоў Вялікага Княства Літоўскага, ды стане гаспадаром і ўладаром усяе свае Бацькаўшчыны Беларусі. Усе фальшаваньні нашае гісторыі ворагамі нашымі страцяць свой сэнс і сілу, калі мы самыя яе напішам, спасылаючыся на верагодныя свае і чужыя крыніцы.

Жадаю Вам з вялікай урачыстасьцю, узнёсласьцю і духоўнай радасьцю сустрэць наш Вялікдзень. У гэтыя дні Ўваскрасеньня Хрыстовага мы духоўна злучаемся з нашымі роднымі на Бацькаўшчыне, калі шчыра молімся за наш паняволены Беларускі Народ.



Вітаю ўсіх Вас з найвялікшым нашым праваслаўным хрысьціянскім сьвятам — Уваскрасеньнем Хрыстовым!

*Лета Божага 1986* *месяца красавіка*

†Мітрапаліт Ізяслаў
Першагерарх Б.А.П.Ц

**З ВЯЛІКІМ СЬВЯТАМ
УВАСКРАСЕНЬНЯ ХРЫСТОВАГА**
*вітаем*
**Высокапрэасьвяшчэннага Мітрапаліта ІЗЯСЛАВА**
Дастойнае Сьвятарства і ўвесь клір царкоўны,
Парахвіяльныя Рады, Брацтвы і Сястрыцтвы,
ды ўсіх вернікаў
Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы
і ўвесь Беларускі Народ на Радзіме і на чужыне.
*ХРЫСТОС УВАСКРОС! ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!*
Кансысторыя і Рада Б.А.П.Ц.

# АБ СПОВЕДЗІ

Калі вы ідзеце на споведзь да вашага духоўніка, дык старайцеся прыпомніць сабе ўсе вашыя грахі і майце пры гэтым цьвёрды, рашучы намер расказаць яму ўсё, што ведаеце пра сябе дрэннага, ды расказаць без усякага самавыбачэньня і самаапраўданьня... Вы хочаце,каб духоўнік дараваў вам грахі ад імя Божага, але як-жа ён вам зможа дараваць грахі, калі вы не цалком іх яму выявіце? Вы хочаце вылечыцца ад грахоўнае хваробы, але як-жа духоўны лекар можа вылячыць вас, калі вы не раскажаце яму шчыра ўсяго пра хваробу? Можа сорамна выяўляць усё духоўніку? Саромся грашыць, а выяўляць грэх няма чаго ўжо сароміцца. Цяжка гэта табе? Што-ж рабіць?! Грэх можа быць дараваны толькі тады, калі грэшнік адчуе і, так-бы сказаць, вянясе ўвесь яго цяжар: чым цяжэй і больш пакутліва на споведзі, тым лягчэй будзе на душы пасьля споведзі. Лепш які час памучыцца, чым мучыцца ўсё жыцьцё, а магчыма і ўсю вечнасьць, бо грэх будзе тырчэць у душы нашай, аж пакуль ня выкінем яго на споведзі.

Ты баішся, каб духоўнік не зьмяніў пра цябе свае добрае думкі, каб ня стаў думаць дрэнна пра цябе, калі ты прызнаешся яму ўва ўсіх тваіх слабасьцях? Павер, што ніколі ня скажаш яму нічога такога, што яго-б асабліва задзівіла. Духоўнік сам чалавек са слабасьцямі і,

магчыма, грашнейшы за цябе; ён ведае больш за іншых пра немачы і ўпадак людзкі. Чым больш ты выявіш яму сваіх грахоў, тым шчырэй ён будзе маліцца за цябе Богу; чым больш шчыра ты яму прызнаешся, тым лепшую ён будзе мець думку пра цябе. Шмат на сьвеце грэшнікаў, ды мала такіх, якія шчыра прызнаюцца ў грахох. Ад духоўніка ты можаш схаваць свае грахі, але ад Бога не схаваеш: Ён ведае ўсе твае грахі, ведае найбольш таемныя твае намеры. Перад духоўнікам ты будзеш чысты, правы, а перад Богам брыдкі, асуджаны за тое толькі, што пасароміўся аднаго чалавека, свайго духоўніка. Лепш зусім ня ісьці на споведзь, чым спавядаючыся таіць грахі. Як цяжка грэшыць той, хто на споведзі ўтойвае грахі! Ён падманьвае духоўніка, але-ж перад чалавекам маніць грэшна; ён падманьвае Бога, а перад Богам ілгаць зусім бессаромна; так ён пакрывае свае грахі новым грахом.

А бо чаму-ж ты ня ўсё кажаш духоўніку? Праз гордасьць. Ня што іншае, а гордасьць забараняе табе прызнацца, што ты абцяжараны цяжкімі, паскуднымі, нізкімі слабасьцямі. Табе ня хочацца пакаяцца перад духоўнікам? Тады ўсе грахі твае будуць выяўлены на страшным судзе, перад мільёнамі людзей і ангелаў. Вось тады сапраўды будзе сорамна — так сорамна, што пачнеш прасіць горы і ўзгоркі, каб яны схавалі цябе ад сораму.

Так, браты, калі хочаце спавядацца, то спавядайцеся з усёй шчырасьцяй: выяўляйце ўсё, што ведаеце пра сябе дрэннага; паказвайце сябе такімі, якімі вы ёсьць у сапраўднасьці. Самаапраўданьні і самавыбачэньні на споведзі зусім не патрэбныя.„Вось чада (дзіця) — кажа духоўнік — Хрыстос нябачна стаіць побач, прыймаючы споведзь тваю..." Якая дзіўная ў нас, браты, тайна — споведзь. Выявіш перад духоўнікам у чым ты зграшыў, а духоўнік скажа, зьвяртаючыся да цябе:„дарую і звальняю цябе ад усіх грахоў тваіх у Імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа" і ў гэты мамэнт, адразу грахі табе даруюцца і ты робішся новым, бадзёрым і спакойным, як-бы ты ніколі нічым не грашыў, быццам ты быў заўсёды чыстым і правым перад Богам.

Калі паперу разьдзярэш, зьнішчыцца ўсё, што было на ёй напісана. І калі духоўнік скажа „дарую, звальняю і разграшаю", даруюцца ўсе грахі, што былі ў нас, разьдзіраецца рукапісаньне грахоў. Калі абмываецца вадой ад нячыстотаў нашае цела і, абмываючыся, гэтым самым ажыўляецца і ўмацоўваецца ў сілах, так пакаяньнем абмываецца ад грахоў душа наша і гэтым абмываньнем робіцца цьвярдзейшай супраць грэшных спакусаў, мацнейшай, больш гатовай на добрыя ўчынкі.

Якую моц мае апушчэньне хрышчанага ў ваду з вымаўленьнем

(працяг на б.29)



# ШТОДЗЁННАЯ МАЛІТВА ЕРАСХІМНІКА ПАРФІРА КІЕЎСКАГА

Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы! Недапусьці, каб марнота, самалюбнасьць, пачуцьцёвасьць, нядбайнасьць, гнеў валодалі мною і выкрадалі мяне ад любові Твае. О, Госпадзе мой, Стварыцелю мой, уся надзея мая! Не пакінь мяне бяз удзелу ў шчасьлівай вечнасьці, зрабі, каб і я пайшоў за сьвятым Тваім прыкладам, каб быў пакорны уладам , пастаўленым нада мною; падары мне гэту чысьціню духа, гэту прастату сэрца, што робяць нас дастойнымі Твае любові. Да Цябе, о, Божа мой, узношу душу маю і сэрца маё — не дапусьці згінуць стварэньню Твайму, але збаў мяне ад адзінага і найвялікшага зла — ад грэху.

Зрабі, Госпадзе, каб я пераносіў з такім-жа цярпеньнем турботы і скрухі душэўныя, з якою радасьцю прымаю прыемнасьці сардэчныя. Калі Ты хочаш, Госпадзе, Ты можаш ачысьціць і асьвяціць мяне. Вось перадаю сябе Тваей дабраце, просячы зьнішчыць ува мне ўсё праціўнае Табе і далучыць да гурту выбраных Тваіх. Госпадзе, адымі ад мяне пустоты духа, што марнуюць час, турботнасьць думак, што перашкаджае Тваей прысутнасьці і займае маю ўвагу пры малітве: калі-ж, молячыся, я адхіляюся ад Цябе маімі думкамі, дык памажы мне, каб гэта забава ня была ўмыснай і, каб адварочваючы розум, я не адвярнуў ад Цябе сэрца майго. Спавядаюся перад Табою Госпадзе, Божа мой, ува ўсіх грахох майго беззаконьня, цяпер і раней учыненых перад Табою — даруй мне іх дзеля Твайго сьвятога Імя і спасі душу маю, якую Ты выкупіў каштоўнай Крывёю Тваёю.

Даручаю сябе Ласцы Тваей, аддаюся волі Тваей, рабі са мною па дабраце Тваей, а не па злосьці і беззаконнасьці маей; навучы мяне, Госпадзе, укладаць справы мае так, каб яны прычыніліся да праслаўленьня сьвятога Імя Твайго. Зьлітуйся,Госпаде над усімі хрысьціянамі, пачуй жаданьні ўсіх, хто кліча Цябе, выбаў ад усякага зла, спасі рабоў Тваіх / імёны/.

Прашу Цябе асабліва за тых, якія мяне чым-небудзь пакрыўдзілі, абразілі і засмуцілі, або якое-небудзь зло ўчынілі: не карай іх дзеля мяне грэшнага, але пралі на іх Ласку Тваю, Госпадзе! Прашу Цябе за ўсіх тых, якіх я, грэшны, засмуціў, пакрыўдзіў, або спакусіў словам, учынкам, думкай, сьведама і нясьведама.

Госпадзе Божа! Даруй нам грахі нашыя і ўзаемныя абразы: выгані, Госпадзе, з сэрцаў нашых ўсякае абурэньне, падозранасьць, гнеў, злопамятнасьць, сваркі і ўсё тое, што можа перашкаджаць любові і памяншаць браталюбнасьць. Памілуй, Госпадзе, тых, якія даручылі мне грэшнаму, недастойнаму, маліцца за іх. Памілуй, Госпадзе, ўсякага, хто просіць Твае дапамогі. Госпадзе, зрабі гэты дзень днём міласэрдзя Твайго; падай кожнаму па просьбе ягонай: будзь Пастырам зблудзіўшых, Правадыром і Сьвятлом няверуючых, Настаўнікам нямудрых, Айцом асірацелых, Памочнікам прыгнечаных, Лекарам хворых, Пацяшыцелем уміраючых і прывядзі нас усіх да жаданага канца, да Цябе, нашага пристанішча і шчасьлівага супакаеньня. Амін.

П.Манькоўскі

# ХТО-Ж КАНАНІЧНЫ...

У гэтай важнай справе ў нас усё яшчэ царыць неразьбярыха, з чаго пацеха адно зарубежнікам, бо гэта-ж яны, пануканыя і заахвочваныя Масквою,першымі вынесьлі яе на форум грамадзкае дыскусіі, безадказна і беспадстаўна кінуўшы на нашых герархаў зьнішчальны, як ім здавалася..., закід неканянічнасьці. Праўда, закід той у нічым не памяшаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве цягам доўгіх год расьці і мацнець Богу на хвалу і нам на карысьць. Усё-ж дыскусія тая не разьвілася і нічога ня было выясьнена, а добрым людзям усяк думалася... Так яно цягнулася-б хто ведае, як доўга, каб Бог ня даў усёй справе новы, нікім не прадбачаны ход: Ён захацеў, каб Царква-гаротніца наша выстаяла пад страшнай атакай нячыстае сілы, ды каб у гэтым цяжкім змаганьні за Яе існаваньне ўсе Беларусы — роўна, простыя і адукаваныя, сьведамыя і адказныя ды тыя зусім нічога не разумеючыя, праваслаўныя, рыма-каталікі і вуніяты, крывічы і зарубежнікі — каб усечыста да канца ўрэшце зразумелі, як гэта разумеюць нашы адпетыя ворагі, нятолькі Яе поўную кананічнасьць, але і ўсю Яе веліч ды выключнае значэньне ў гэту грозную пару нятолькі для беларускай эміграцыі, але і для ўсяго Беларускага Народу ў цэласьці.

У сувязі з гэтым варта сабе ўсьведаміць і запамятаць, што ў гісторыі знаходзім нямала прыкладаў, калі дзяржава гінула, свая палітычная ўлада прападала бяз сьледу, а Царква катастрофу пераносіла, выжывала і вяла народ да адраджэньня. Так было ў Палякоў і ў паўдзённых Славянаў. У нас, нажаль, Царква такое ролі сыграць не змагла з дзьвух важных прычынаў: Яе жахлівага аслабленьня пасьля Берасьцейскае Вуніі і Яе прымусовага падпарадкаваньня Маскве ды дэ-факто ліквідацыі пасьля канчатковай акупацыі Літвы Масквою 1795 г.. Цягам 127-мі год не давала Яна знаку жыцьця... Таму Яе адраджэньне на Саборы ў Менску 1922 г. заскочыла ўсіх — нажаль дэталі гэнае выдатнае падзеі, і як да яе дайшло, пакуль няведамыя нікому... Усё-ж адно ведаем: за свой гераічны ўчынак усе ўдзельнікі паплаціліся жыцьцём, не ўцалеў ніхто... Яе чарговае адраджэньне ў 1942 г. і ўрэшце апошняе, трэйцяе, ў 1948 г. пасьля здрады „нашага" епіскапату ў Нямеччыне, якое адбылося ўв атмасфэры дзікай пра-маскоўскай апазыцыі і эмігранцкай галечы, ды наступных 38 слаўных год змагарнага шляху на чужыне добра прадэманстравалі перад сваім і чужым Яе неспадзяваную жывучасьць і здольнасьць дапасаваньня да нязвычных абставінаў жыцьця ў розных частках сьвету. Усё гэта добра ведаюць бальшавікі, якім концам карціць сьцерці Яе з твару зямнога —гэты апошні даканца непакорны ачаг беларускай волі і праўды. Ды нешта выглядае, што Яна ўжо ператрывала абодва нашы т.зв.„дзяржаўныя цэнтры", БНР і БЦР, якія пад ударам чырвонай дубінкі аказаліся выбітымі са строю — яшчэ плаваюць, але стырно ўжо не працуе...



Як гісторык, пачынаю разгляд нашае тэмы ад сьв.апосталаў. На пачатак спытаемся: чым надзяліў Сваіх вучняў Госпад наш Ісус Хрыстос, адыходзячы з абсягу зямнога бытаваньня Свайго? Адно пэўна, што ня даў Ён ім у рукі ніякае ўлады над людзьмі ў сьвецкім разуменьні гэтага слова, бо і Сам такою ніколі не карыстаўся, нікога ня прымушаў служыць Сабе... І гэта моцна цікава, бо ясна, што мог гэта рабіць, калі-б схацеў, а калі не рабіў, дык відаць з прынцыпу, ня іначай. Затое Ён шчодрай рукою надарыў, усім роўна адмерыўшы, саслаў на кажнага апостала Сілу Духа Сьвятога і той велічны Дар Ягоны зрабіў з тых бязграматных, зьбянтэжаных вялікімі падзеямі, слабасільных ізраільскіх сялян-рыбакоў сапраўдных асілкаў Духа, якія раптам сталі гаварыць на розных, дасюль ім зусім няведамых мовах сьвету і пачалі сабе дакладна прыпамінаць усё, чаго навучаў іх Вялікі Настаўнік. Так азброеныя яны без ваганьняў пайшлі ўва ўсе бакі і закуткі тагачаснага сьвету, каб апавясьціць усім людзям вялікую і радасную, хоць і неймаверную, навіну пра Сына Божага, Які ўчалавечыўся...,ды бясстрашна прыняць мучаніцкую сьмерць за Праўду Ягоную.

Выглядае, што Госпад наш Ісус Хрыстос фактычна не ўстанавіў ніякай бліжэй акрэсьленай адміністрацыйнай формы для Свае Царквы, ня вызначыў нікога і не паставіў Яе Кіраўніком. Урэшце, не ўважаў Ён за патрэбнае аставіць па Сабе Заступніка на гэтай зямной юдолі... Беспадстаўныя векавыя прэтэнзіі папы рымскага да кіраўніцтва Сусьветнай Царквою, а і да заступніцтва Хрыстовага на зямлі, трэба трактаваць у лепшым выпадку як дзіцячую гульню людзей, якім лішні дабрабыт і багацьце пакруцілі розум у галаве, а ў горшым як безадказную ерась. Бо-ж не парупіўся Ён пра ўсё гэта не таму, што забыўся, ці паленаваўся..., а таму, што задобра ведаў нягодную, грэшную натуру чалавека, якому заўжды тужыцца, каб панаваць над іншымі і сьвярбіць рука, каб падняць яе на слабейшых... Калі аднойчы вучні ўсё-ж адважыліся Яго папытацца, каго спаміж іх Ён лічыць большым, адказаў ім коратка і ясна:
„Калі хто хоча першым быць, хай будзе з усіх апошнім і для ўсіх слугою..."(Марк 9,35). Вось якое аўтэнтычнае Хрыстова прадпісаньне на пяршынства ў Царкве Божай, у Якой Ён бачыць панаваньне Сілы Духа Сьвятога, а не сілы рукі людзкой, мяча, ці цэнтральнай арганізацыі.

А ўсё-ж Хрыстос не аставіў Царквы Свае зусім без ніякае ўправы: праз тое, што ўсіх Сваіх вучняў трактаваў Ён зусім аднолькава, нікога

з іх асабліва не ўзвышаючы, ані каго паніжаючы, Ён выявіў нам і ўстанавіў галоўны арганізацыйны прынцып Царквы Божае — прынцып сабornасьці, згодна з якім усе важныя справы Царквы сьпярша сьв.апосталы, а за імі і іхнія наступнікі, імкнуліся вырашаць супольна на лякальных саборах, што склікаліся колькі раз на год, або на краёвых, скліканых у меру патрэбы, ды ўрэшце ў справах датычных усяе Царквы Хрыстовае —на Экумэнічных ці Ўсяленскіх Саборах. Усе Цэрквы Усходу ад самага пачатку і па сяньняшні дзень рупліва і акуратна трымаюцца гэтага Хрыстовага прынцыпу сабор-насьці ў сваёй царкоўнай практыцы на ўсіх узроўнях — ад лякальнага пачынаючы і патрыярхатам канчаючы.

На Захадзе, як ведама, справы зляжыліся зусім інакш: дзякуючы сваеасабліваму ўкладу гістарычнае абстаноўкі і адменнаму прабегу гістарычнага працэсу, ды памянутым вышэй прэтэнзіям папы рымскага, Заходняя Царква з ходам вякоў пачынае ўсё больш і больш скажаць і губляць у сваім бурным жыцьці той запаветны прынцып сабornасьці, ды ўрэшце зусім яго затрачвае і базуе сваю структуру на дыямэтральна процілеглым яму прынцыпе цэнтралізму, перарадзіў-шыся такім парадкам у нейкую сваеасаблівую пароду супэр-дзяржавы, якая прасьціралася на многія гаспадарствы сьвету. Ужо ў самым гэтым факце хаваўся зародак дэстабілізацыі — зусім падобна, як яно бывае ў хіміі, калі прабываньне па суседзтву і нарастаньне ў сілу розных элемэнтаў можа спрычыніць гвалтоўную рэакцыю, у выніку якое нараджаецца зусім новы прадукт. Такі выбух у Заходняй Царкве меў месца ў сярэдзіне гэтага тысячалецьця: у выніку яго Царква гэта страціла краіны Сярэдняй і Паўночнай Эўропы, дзе паўсталі зусім новыя , нікому не падпарадкаваныя Цэрквы і сэкты на зусім новай тэалягічнай аснове. Паколькі паўсталі яны ў выніку пратэсту супроць скандальных дачыненьняў у Рымскай Царкве, яны назвалі сябе Пратэстанцкімі.

Апошнім часам шмат хто на Захадзе пачаў уважліва прыглядацца і вывучаць Цэрквы усходняй Артадоксіі, ці Праваслаўя, дзе захаваліся непарушанымі старыя апостальскія традыцыі. Людзей асабліва пацягвае зьдзіўляючая стабільнасьць гэтых Цэркваў ув абліччы выключна цяжкога Іх гістарычнага лёсу і пакутніцкага шляху, якія Ім Усемагутны схацеў канаваць — усе Яны перажылі вялікія палітычныя патрасеньні, а навет катастрофы. Усё гэта, відаць, у пацьверджаньне той здаўна вядомае тэзы, што толькі ў бязупынным змаганьні з вялікімі цяжкасьцямі жыцьця зараджаецца і працьвітае Праўда Божая.

Але ёсьць на Ўсходзе адзін, ды не абы-якіх памераў, асаблівы вынятак з тае групы Цэркваў-гаротніц — гэта Царква Маскоўская. Яна, прысвоіўшы сабе стара-кіеўскія традыцыі, а пазьней праглы-



нуўшы і рэшткі нашае Літоўскае Мітраполіі, ня ў прыклад іншым Цэрквам старажытнага Ўсходу стала ўгодніцай ня Богу, а царом і вяліка-расейскаму шавінізму, з часам зусім ператварыўшыся да-слоўна ў расейскае ўрадавае „ведамства"... Гэта, праўда, запэўніла Ёй і слугам Яе бястурботнае існаваньне ў дастатках і афіцыйнай пашане, але з году ў год усё больш і больш губляла Яна сэнс свае місіі ў народзе, які ўжо Ёй ня верыў і не шанаваў Яе слугаў. Як ведаем, дайшло да таго, што пасьля рэвалюцыі 1917 г., першы раз ад 3-га стагоддзя калі хрысьціяне хаваліся ў катакомбах, пачаўся тут новы крывавы прасьлед Хрысьціянства: народ (пад агітацыяй, бязумоўна) падняў руку на сваю Царкву і зьнішчыў Яе амаль да тла... З таго часу, на шчасьце, праява гэта нідзе не паўтарылася ў такой зьверскай форме. Усё-ж, як на гэта не глядзець, а ўсякаму ясна, што дзеела тут Рука Божая, вымяраючы такой радыкальнай дарогай кару Божую за вякі праступстваў, гвалту і непашаны Слову Ягонаму.Адно-ж, як ня дзіўна, пакараньне гэна Царквы ня выправіла: вось ужо мінае 70 доўгіх год ад тае пары вялікай гразы Божай, але ня бачна, каб тыя, што вядуць, Царкву тую пад бальшавіцкі дыктат, ані тыя, што кіруюць Яе асколкамі на Захадзе, належна зразумелі сэнс тае кары, што ім Бог паслаў на апамятаньне: што рабілі за царом-бацюшкам, тое самае робяць сяньня, ды ня ў меншых маштабах; як служылі беламу цару за славу і раскошу, так сяньня служаць чырвонаму молаху нізкімі рабамі ў якасьці таго-ж „ведамства". Пры ўсім тым, бязумоўна, Царква гэта заўсёды імкнулася трымацца на ўзроўні строга кананічным. Толькі-ж нажаль уся кананічнасьць тая, якой-бы яна ня была, не змагла ўсьцерагчыні герархаў Яе, ні духавенства ад кардынальных блудаў і грахоў, якія сьцягнулі на Яе і на Расею жахлівую кару Боскую.

Разьвіваючы нашу тэму далей заўважым, што Хрыстоў прынцып сабornасьці забясьпечвае роўнасьць нятолькі ўсіх епіскапаў, але і роўнасьць перад абліччам Бога ўсіх Яго Цэркваў, малых і вялікіх. У шматвяковай практыцы царкоўнага жыцьця гэты, спачатна абстракны прынцып вякамі замацаваўся, як права сабornасьці, якое і стала крыніцай аўтакефальнага права ў Праваслаўнай Царкве, ды той карыгуючай сілай усяе Царквы супроць пасяганьняў сільных на правы слабейшых. Вырасшае пазьней на гэтай надзейнай Хрыстовай аснове заканадаўства Царквы дае шырокія магчымасьці здабыцьця самаўпраўнасьці асобным нацыянальным Цэрквам. Прытым „раз зрэалізаванае права аўтакефальнасьці данае Царквы ўважаецца ўжо за непарушнае і неадменнае бяз згоды зацікаўленае Царквы, хаця-б вонкавыя абставіны (жыцьця) тае Царквы і зьмяніліся на некарысьць Яе аўтакефальнага стану"(гл.Проф. О.Лотоцький, Автокефалія, т.I,133). Такі вынік шматвяковае барацьбы за правільную інтэрпрэ-

тацыю вялікага прынцыпу саборнасьці ў Царкве Хрыстовай.

У часы апостальскія ўсякая грамада веруючых хрысьціян лічылася кананічнай Царквою, калі ёю кіраваў і навучаў сьв.апостал. З разростам такіх грамад і тварэньнем усё новых, сьв.апосталы пачалі ставіць на іх чале сваіх заступнікаў і наступнікаў, якіх пачалі клікаць епіскапамі (ад грэцкага эпіскопос, наглядчык) — яны і працягвалі кананічна кіраваць Царквою. Справы пачалі ўскладняцца, калі грамады верных пачалі множыцца і даць кожнай епіскапа стала немагчымым; тады, сілай рэчаў, епіскап пачаў кіраваць большай колькасьцяй суседніх грамад-парахвіяў (ад гр.пароікос, сусед, суседзкі), ды высьвячаў цераз рукапалажэньне адпаведна падрыхтаваных людзей на духоўных кіраўнікоў парахвіямі, якія правілі Багаслужбы і выконвалі прадпісаныя канонамі і традыцыяй трэбы.

Як ужо адзначана вышэй, усе ўсходнія епіскапы заўсёды строга трымаліся і сяньня трымаюцца Хрыстовага прынцыпу саборнасьці. Дзеля адміністраваньня Царквою ў большай правінцыі , ці ў цэлай дзяржаве, сабор епіскапаў тае правінцыі, ці дзяржавы, выбіраў спаміж сябе аднаго епіскапа, якому давалі назоў мітрапаліта, г.зн. таго, хто мае рэзыдэнцыю ў сталіцы, ці мэтраполіі (ад гр.мэтрополіс, горад-матка). Для вялікіх акругаў, што ахаплялі шмат мітраполіяў, або для ўсяе імпэрыі выбіралі патрыярха (гр.патріархэс, галава сям'і). Па старой традыцыі, якая сягае першых вякоў Хрысьціянства, патрыярхаў было ўсяго пяць: 1.Рымскі, якому давалася ганаровае першае месца, паколькі рэзыдаваў у першай сталіцы Рымскай Імпэрыі, але ў астальных правох ён быў толькі прымус-інтэр-парэс, г.зн.першым сярод роўных; 2.Канстантынопальскі, як рэзыдуючы ў новай сталіцы Імпэрыі, у Новым Рыме; 3.Антыяхійскі; 4.Александрыйскі і 5.Ерусалімскі. Пазьней, асабліва з упадкам прэстыжу Канстантынопаля, патрыярхаты пачалі множыцца, але гэта справа тут нас ня цікавіць.

Слова „канон" ёсьць грэцкага паходжаньня і азначае правіла, а ў справах царкоўных — юрыдычную аснову. Найчасьцей слова гэта ўжываецца адносна слугаў Божых — герархаў і іншых асобаў духоўнага сану: кананічным, ці некананічным бывае епіскап, адміністратар Царквы, сьвятар, і т.п.. Такім чынам само паняцьце кананічнасьці адносіцца фактычна да кіраўніцтва Царквою і Яе духоўнага саставу: Царква некананічная гэта такая, у якой асабовы склад духоўнікаў некананічны, некананічна хіратанізаваны, рукапаложаны. З гэтага вынікае, што прызнаньне данае Царквы іншымі Цэрквамі Хрыстовымі не вырашае Яе кананічнасьці, а хутчэй ёсьць вынікам тае кананічнасьці. Але магчымым ёсьць для зусім кананічнае Царквы аставацца няпрызнанай цягам доўгіх гадоў — прыкладам Баўгарскі Патрыярхат. На перашкодзе звычайна стаяць палітычныя, або і іншыя справы нецаркоўныя.



Наша Сьвятая Царква, у гісторыі ведамая пад назовам Літоўскай Мітраполіі (усё наша тады звалася „літоўскім" і сам гэты назоў быў непадзельна наш), стала аўтакефальнай(самаўпраўнай, незалежнай) за княжаньня в.кн.Вітаўта, калі на Саборы ў Наваградку ў 1416 г. быў выбраны і пастаўленымітрапалітам Рыгор Цамблак — раней усё гэта рабілася цераз Канстантынопаль. Як ведама, пасьля Ягайлавай пэрсанальнай вуніі з Польшчай 1386 г., у выніку якой рыма-каталіцызм нечакана здабыў сабе дамінуючую пазыцыю ў Літве, лёс Праваслаўнай Царквы ў нашай дзяржаве стаў усьцяж пагаршацца. Усё-ж аўтакефалія, раз устаноўленая і замацаваная ўтрымалася тут аж па злавесны 1596 год: пасьля Берасьцейскае Вуніі Царква-мучаніца наша саступіла ў пад'зямельле і цемра запанавалаў нас на тры вякі з гакам. У міжчасе, пасьля падзелаў Рэчыпаспалітай, Масква праглынула канчаткова ўсё, што яшчэ асталося было пры жыцьці ад старое Літоўскае Мітраполіі разам з тым, што папала ў яе прагныя рукі пры ліквідацыі Вуніі.

Так, у сілу крытычнае гістарычнае абстаноўкі, Царква адышла была з явы жыцьця, але народ пра Яе не забыўся — ідэя не памерла... і права на аўтакефалію асталося непарушным. Гэтага было Ёй дастаткова, каб успырхнуць-адрадзіцца ў 1922 г., ды крывавая рука бальшавізму тут-жа прыдушыла Яе ізноў... Але і гэтым разам права на аўтакефалію не затрацілася, ідэя жыве ў сэрцах далей і 20 гадоў пазьней акт адраджэньня Сьвятой Царквы нашай паўтараецца на Саборы ў тым-жа Менску! Яшчэ раз „вонкавыя абставіны жыцьця" гвалтоўна мяняюцца і ў выніку —Царква ізноў ня можа жыць, ані разьвівацца родным прасторы, Яна змушаная яго пакінуць. Але Царква жыве далей, ідэя ў сэрцах красуе што-раз буйней.

Кананічнасьць нашае Праваслаўнае Царквы нікім і ніколі не аспрэчвалася: ні калі Яна адасобілася ад Кіева ў канцы XIII - пач.IУ ст., ані калі сталася аўтакефальнай у пачатку ХУ ст., ні калі адрадзілася першы раз у 1922 г. і другі раз у 1942 г.. І вось надыйшоў той злавесны 1946 год, а з ім здрада Беларускага Епіскапату сваёй Царкве і Беларускаму Народу. Прыгадаем сабе, што гэта была ўжо другая такая здрада ў гіторыі пакутніцтва нашай Сьвятой Царквы: першая мела месца ў Берасьці Літоўскім ў 1596 г.. Тады, уступаючы перад моцным ціскам сьвецкай улады, амаль усе нашыя герархі (за вылучэньнем двух) з мітрапалітам М.Рагозаю начале, пасьля згоды на дагматычныя ерасі Рыму, прызналі над сабою чужую юрысдыкцыю папы рымскага і гэтым фактам дапусьціліся юрыдычнай (пасьля якой прыйшла і фактычная) ліквідацыі Літоўскай Мітраполіі, якой суджана было адрадзіцца ажно ў 1922 г., ды ўжо пад зусім новым назовам Беларускай Мітраполіі — праўда, ізноў-жа аўтакефальнай, зусім незалежнай ад Масквы. Такім парадкам, першая здрада

герархаў каштавала нам 326 гадоў заняпаду і ніхто ня зьменіць, ані адверне прысуду гісторыі: гэта быў жудкі заняпад нятолькі нашае Царквы, але і ўсяго Народу. Вунія ўскладніла і на шмат пагоршыла прабег нашай гісторыі: яна ніяк не зраўняла ў правох праваслаўных з рыма-каталікамі, як гэтага ад яе спадзяваліся; яна ў нічым і ані на колькі не зьмяніла на лепшае прычыненага нам суседзямі народазьнішчальнага працэсу адчужэньня магнацкай і шляхоцкай клясаў ад Народу, ды няўхільна паступаючага закабаленьня вольнага калісь літоўскага сялянства; ня стрымала яна і маскоўскай агрэсіі, як гэтага чакалі, а яўна яе ўзмацніла, даўшы Маскве ў рукі новую прынаду да „вызваляньня" пакрыўджаных праваслаўных... Ув адраджэньні Народу вуніяцтва не праявіла сябе даслоўна нічым: вуніяты ўсюды пляліся за рыма-католікамі, усюды ўступаючы перад езуітамі і іншымі агрэсыўнымі элемэнтамі лацінізму. Наш канчатковы балянс вуніяцкага эпізоду — каля двух мільёнаў душ перацягнутых у рыма-каталіцтва і там апалячаных.

Бязумоўна, здрада герархаў 1946 году мела зусім іншы характар і маштаб, чымся тая 350 гадоў раней. Найперш, пашла яна ў карысьць ня Рыму, а Маскве: Руская Зарубежная, у дадатак да фармальнага зьліквідаваньня збунтаванай Беларускай Царквы, прыліў сьвежых сіл — мітрапаліта і ажно пяць епіскапаў! Нельга памінуць маўчаньнем ганебны факт, што сярод іх апынуліся і епіскапы-Беларусы, якія нятолькі ніяк і нічым не зарэагавалі на нягодны акт здрады Беларускай Царкве і Народу з боку мітрапаліта і яго расейскіх саратнікаў, але пазьней не шчадзілі высілкаў, каб яе, тую чорную здраду, як-небудзь ды апраўдаць, каб чорнае нeяк зрабіць белым... Сумна чытаць крымзолы гэтых нявольнікаў сытага брушка і цёплай пярынкі... За народам яны не пайшлі, бо-ж у той цяжкі час Беларусы не змаглі ім гарантаваць усіх „прысушчых" епіскапам выгод, а Расейцы далі ім усё! Якая нізкасьць у духоўнікаў, на якіх пакладалі столькі надзеяў!

Здрада герархаў аставіла Беларусаў на чужыне без духовай апекі і без свайго рэлігійнага прыстанішча. Вялікай бядзе трэба было нeяк зарадзіць за ўсякую цану: людзі разумелі, што нeяк трэба адрабіць зло ўчыненае ворагам і падняць з упадку Сьвятую Царкву нашу. Але зрабіць гэта маглі толькі епіскапы. Прышлося зьвярнуцца да Украінцаў і яны памаглі, ды гэта ня было ніякае „умяшаньне ў беларускія рэлігійныя справы...", як гэта заўзята трубіла гадамі зарубежная дывэрсія, а самая сапраўдная братняя дапамога: далі яны нам епіскапа, памаглі падрыхтаваць і хіратанізаваць свайго, і так адрадзіўся Сынод Б.А.П.Ц., а з ім наша пашкоджаная Сьвятая Царква ізноў моцна стала на свае ногі. Адзін герарх пераехаў на

(працяг на б.28)



*а.ВАСІЛЬ КЕНДЫШ*

# ДА САРАКАЛЕЦЬЦЯ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ Ў ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ

У выніку Другое Сусьветнае Вайны і паўторнай акупайыі Беларусі савецкай бязбожнай камуністычнай уладай у 1944 годзе ўвесь Беларускі Епіскапат, г.зн. мітрапаліт Панцялейман, арх.Бэнэдыкт, арх.Філафей, арх.Ян і епіскапы — Апанас, Сьцяпан, Грыгорый і Паўла, разам з ніжэйшым духавенствам і шматлікімі вернікамі апынуліся на тэрыторыі Заходняе Эўропы, пераважна ў Заходняй Нямеччыне. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны і падпісаньня мірнага дагавору ў 1945 г. усе яны не пажадалі вярнуцца на Бацькаўшчыну, будучы сьвядомымі жудкага прасьледу там нашай Царквы, духавенства і веруючых камуністычнай уладай, ды нязьлічоных ахвяраў сасланых базьвінна ў канцэнтрацыйныя лягеры, дзе яны гінулі ад прымусовае непасільнае працы пры агульнай галадоўцы.

Шматлікія тысячы людзей, што апынуліся на тэрыторыі Нямеччыны, акупаванай заходнімі аліянтамі, былі сабраныя ў лягеры пад апекай міжнароднай арганізацыі адмыслова створанай для перамешчаных асобаў, ці ДП, якая звалася УНРА, а пазьней ІРО. У чэрвені 1945 г. паўстаў Беларускі Камітэт на АмэрыканскуюЗону Заходняй Нямеччыны з сядзібай у горадзе Рэгенсбургу, усходняя Баварыя. Камітэт пачаў навязваць лучнасьць з беларускімі групамі і закладаць беларускія нацыянальныя лягеры пад апекай УНРА.

У самым Рэгенсбургу сабралася значная колькасьць Беларусаў і тут паўстаў асобны беларускі лягер. Увосень 1945 г. старшыня Беларускага Камітэту зьлажыў візыту Беларускаму Епіскапату ў горадзе Тырсгайме, Баварыя, з просьбай, каб прызначылі аднаго з епіскапаў для адпраўляньня Божых Службаў у Рэгенсбургу.Просьба была выпаўнена і з таго часу епіскап Апанас што-нядзелю і ў сьвяты правіў тут службы ў залі пры Камітэце.

Рэгенсбурская парахвія хутка прыдбала дзялянку зямлі на ўскраіне лягеру і пачала будаваць там новую, бадай першую беларускую праваслаўную царкву на чужыне. Ужо ў Вялікі Чацьвер 1946 году Ўладыка Апанас высьвяціў гэту новую царкоўку імем Сьвятое Еўфрасіньні Полацкае. Настаяцелем царквы і парахвіі быў прызначаны прат.Мікалай Лапіцкі. Хорам кіраваў кампазытар Мікола Равенскі.

Крыху пазьнейшым часам былі арганізаваныя і іншыя беларускія парахвіі: 1.У Амэрыканскай Зоне — у Ацбэргу, у Тырсгайме, Вайдэне, ў Міхельсдорфе, Вогэнстраўсе, Гэрэнбэргу, Віндзішбэргердорфе, Гібельштаце, ў Розэнгайме і Бакнангу; 2.У Брытанскай Зоне — у

Ватэнштэце, Госьляры і Гановэры; 3.У Французскай Зоне — у Тюбінген і Мюнсінген. Усе гэтыя парахвіі абслугоўваліся беларускім духавенствам.

Ужо ў канцы 1945 году стала агульна ведамым, што Беларускі Епіскапат, зусім абмінаючы беларускіх праваслаўных вернікаў, пачаў рабіць захады аб сваім пераходзе у Расейскую Зарубежную Царкву. У сувязі з гэтым, Беларускі Царкоўны Камітэт у Рэгенсбургу, з а.Мікалаем Лапіцкім начале, склікаў у Рэгенсбург адумысны Праваслаўны Зьезд прадстаўнікоў беларускае герархіі, духавенстка і вернікаў з усіх трох Зонаў Заходняй Нямеччыны. Зьезд адбыўся 5-га траўня, 1946 году. Ад Беларускага Епіскапату прынялі ў ім удзел арх.Філафей і епіскап Апанас, а ад духавенства прат.М.Лапіцкі, а.Ян Жарскі і а.Л.Стаднікаў. Усяго было на Зьезьдзе каля 65 прадстаўнікоў.

У дыскусіях на Зьезьдзе выявілася, што Беларускі Епіскапат афіцыйна зьвярнуўся да РЗЦ з просьбай прыняць яго ў сваю юрысдыкцыю. Усё-ж Зьезд зьвярнуўся да прысутных епіскапаў з настойлівай просьбай, каб Беларускі Епіскапат у ніякай форме не пераходзіў у РЗЦ, а астаўся пры самастойнасьці Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, адроджданай у 1942 годзе на Саборы ў Менску. Аднак просьба прадстаўнікоў беларускага духавенства і вернікаў была адкінута, галоўна таму, што факт пераходу Епіскапату да РЗЦ ужо быў фармальна дакананым... Ён быў канчаткова аформлены 16-20 травеня, 1946 году, на саборы РЗЦ.

Такім чынам, як відаць, вынікі пратэсту супраць пераходу былога Беларускага Епіскапату ў РЗЦ аказаліся ніякімі. Прат.М.Лапіцкі і інж.І.Касяк, хоць абодва былі пакараныя за скліканьне рэгенсбурскага Зьезду, ня спынілі свайго супрацоўніцтва з былымі беларускімі епіскапамі, што сталі на расейскую службу, а далей іх прызнавалі і гэтым падтрымоўвалііхні пераход у лагер ворагаў Беларусі. Таму праціўнікі пераходу празвалі ўсю іхнюю групу зарубежнікамі...

У тым-жа часе наступіў сярод усяе беларускае эміграцыі і палітычны падзел: адны згуртаваліся вакол адноўленае (хоць раней ім-жа разьвязанае...) Р.Астроўскім БЦР — гэта і былі тыя-ж зарубежнікі — а другія, якім пазьней далі імя крывічоў, пайшлі за інж.М.Абрамчыкам, які як тэстамэнтарны старшыня Рады БНР (згодна тэстамэнту апошняга Прэзыдэнта БНР Захаркі), адрадзіў Раду БНР, папоўніўшы яе сяброўства новымі людзьмі.

Прэзыдэнт М.Абрамчык спагадаў групе, якая парвала з Зарубежнымі, былымі епіскапамі з Беларускага Епіскапату, і хутка пачаліся пошукі епіскапа, які-б ачоліў захады дзеля адраджэньня і далейшага існаваньня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на чужыне. Найперш было пастаноўлена зьвярнуцца у гэтай вялікай справе да мітрапаліта Александра Палескага, які належаў раней да Б.А.П.Ц. і не далучыўся да Расейскай Зарубежнай. Пражываў ён у Мюнхене, Баварыя. 8-га красавіка, 1947 г., мела месца сустрэча нашай дэлегацыі з мітр.Аляксандрам." Цікавіўся ён лікам беларускай эміграцыі ў Нямеччыне, нашымі арганізацыямі, а таксама рэакцыяй беларускага грамадзтва на адыход епіскапаў БАПЦ. Ён раіў ня сьпяшацца, а належна падрыхтавацца да рэалізацыі гэтага так важнага пытаньня, як аднаўленьне БАПЦ. Ён казаў, што трэба ў першую чаргу мець некалькі сьвятароў-беларусаў, каб абсадзіць імі становішчы сьвятароў у беларускіх лягерох і нацыянальных групах. Трэба лічыцца з тым, што некаторыя сьвятары пайшлі за сваімі епіскапамі да Зарубежнае Расейскае Царквы і цяжка спадзявацца, каб яны далучыліся да БАПЦ. Дзеля гэтага неабходна падрыхтаваць маладых сьвятароў-патрыётаў беларусаў. Раптам 9-га лютага 1948 г. мітрапаліт Аляксандар трагічна загінуў і гэты праект не ажыцьцявіўся" (1)

Паколькі часова не знайшлося сярод Беларусаў кандыдата на епіскапа, пастаноўлена было зьвярнуцца да нашых праваслаўных братоў з Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якую ачольваў мітрапаліт Палікарп. Просьба была ад Ураду БНР і ад асірочаных вернікаў. У Французскай Зоне др.Віктар Войтэнка і стары бээнэравец Мікалай Дзямідаў вялі ў гэтай справе асабістыя перамовы з украінскім епіскапам Сергіем Охотэнко. Хутка Сабор Епіскапаў УАПЦ даў сваю згоду і благаславенства епіскапу Сергію пераняць кіраўніцтва асірацелай Б.А.П.Ц. і на хіратонію для гэтае-ж Царквы аднаго кандыдата Беларуса.

Пераняўшы кіраўніцтва Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой Уладыка Сергій склікаў у Канстанцу, Французская Зона, Сабор беларускага духавенства і прадстаўнікоў вернікаў, на якім былі прынятыя пастановы неабходныя дзеля адраджэньня нашага Епіскапату і разгледжаны іншыя важныя арганізацыйныя справы. У тую пару трымаліся пры Б.А.П.Ц. наступныя духаўнікі: а.пратаерэй Сьцяпан Войтэнка, а.Хведар Данілюк, а.Анатоль Кунцэвіч, а.Аляксандар Казлоўскі і а.Міхаіл Шчурко. На просьбу вернікаў згадзіўся ступіць на шлях службы Богу і Бацькаўшчыне інж.Уладзімір Тамашчык, які ўжо 25 чэрвеня 1948 г. быў рукапаложаны ў сан ераманаха, прыняўшы манаскае імя Васіля.

Новавысьвячаны а.Васіль сарганізаваў парахвію адроджанае Б.А.П.Ц. ў лягеры ДП ў Розэнгайме, што налічвала каля 500 душ. У дапамогу а.Васілю быў прызначаны а.Лонгін Шэмеціла. Адначасна а.Васіль паступіў на Украінскую Багаслоўскую Акадэмію ў Мюнхене, якую скончыў у травені 1951 г. з тытулам магістра Багаслоўя. 19 сьнежня 1949 г. адбылася хіратонія а.Васіля Тамашчыка на епіскапа

Б.А.П.Ц.. Хіратонію выканалі: епіскап Сергій ад Б.А.П.Ц. і епіскапы Платон і Вячаслаў ад У.А.П.Ц. Епіскапы Платон і Вячаслаў былі кананічна хіратанізаваныя пры дапамозе мітрапаліта Варшаўскага Дыянісія, (2), а адносна епіскапа Сергія ўв актах Б.А.П.Ц. маецца пасьведчаньне ад самога мітрапаліта Дыянісія ад 10 травеня 1944 г., пад нумарам 705, дзе між іншым сьцьвярджаецца, што „Сергій, Епіскап Мэлітапольскі — са складу УАПЦарквы — атрымаў кананічную хіратонію 1-га жнівеня 1943 году ў горадзе Елісаветградзе (Кіраваградзе)". Хіратонію архімандрыта Сергія на епіскапа выканалі: арх.Міхаіл Мікалаеўскі, арх.Генадзі Днепрапятроўскі і епіскап Уладзімір Новаміргародзкі.

Натуральным парадкам рэчаў усе перайшоўшыя ў РЗЦ былыя епіскапы БАПЦ, з мітрмпалітам Панцялейманам начале, адразу накінуліся на епіскапаў Сергія і Васіля з закідам, што яны некананічныя, на што яны ня мелі ніякага дакумэнтальнага доказу. З чыста людзкога пункту гледжаньня гэта ня цяжка зразумець: ім забалела, што вось знайшліся усё-ж людзі, што паднялі лямку, якую не захацелі цягнуць тыя, што адыйшлі да РЗЦ на лёгкі хлеб... А падаюцца гэтыя весткі тут галоўна дзеля таго, што сяньняшнія адшчэпнікі ад Б.А.П.Ц. і некаторыя іншыя праваслаўныя Беларусы паслугоўваюцца маною аб некананічнасьці нашай Царквы, ня ведаючы ні канонаў, ні правілаў Сьвятое Праваслаўнае Царквы, і гэтым беспадстаўна зьневажаюць сваю родную гістарычную Царкву ды моцна грашаць Богу.

З 1948 году пачалася эміграцыя Беларусаў з Заходняй Нямеччыны на сталае пасяленьне ў розныя краіны Заходняга Сьвету. Першагерарх Б.А.П.Ц. Архіепіскап Сергій выехаў ув Аўстралію і спачатку затрымаўся ў гор.Сыднэі, а пазьней пераехаў у Пэрт, дзе была парахвія Б.А.П.Ц., а яшчэ пазьней выехаў у Адэляйду, дзе ўжо існавала наша парахвія імя Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўлы, якую арганізаваў там прат.Міхаіл Шчурко. У 1958 годзе паўстае ў Мэльбурне Парахвія Сьвятых Віленскіх Мучанікаў Антона, Яна і Еўстафія, арганізаваная яе нязьменным Кіраўніком Мітрафорным Протаерэем Аляксандрам Кулакоўскім.

Епіскап Васіль астаўся даўжэй у Нямеччыне, каб закончыць свае студыі на Багаслоўскай Акадэміі. У міжчасе ён наведаў Англію, дзе 25 чэрвеня 1950 г. рукапалажыў у сан ерэя Аляксанра Крыта для абслугоўваньня арганізаваных ім-жа ув Англіі парахвіяў. Вярнуўшыся назад у Нямеччыну, Уладыка Васіль рукапалажыў у сан ерэя Б.А.П.Ц. Аўгена Смаршчка, які толькі што закончыў філязафічны факультэт Марбургскага Унівэрсытэту, і прызначыў яго на абслугоўваньне праваслаўных Беларусаў у Бэльгіі.

Закончыўшы свае навукі ў Багаслоўскай Акадэміі ў 1951 г. Уладыка Васіль пераяжджае ў ЗША і затрымоўваецца на сталае ў Нью-Ёрку, дзе ўжо была парахвія Б.А.П.Ц., арганізаваная а.пратаерэем Хведарам Данілюком. З 12 жніўня 1951 г. пачаліся Божыя Службы ў Нью-Брансьвіку,Н.Дж., дзе а.пратаерэй Сьцяпан Войтэнка аснаваў парахвію Б.А.П.Ц. імя Жыровіцкае Божае Маці. У 1959 годзе было набытае тут прыгожае месца пад магільнік,якое сяньня служыць патрэбам Буларусаў усей паўночна-ўсходняй часткі Амэрыкі. У 1961 годзе гэта парахвія купіла ад Грэкаў царкоўны будынак, а каля яго двохфамілійны дом, у якім адна кватэра прызначаецца для духаўніка.



У сьнежні 1951 году паўстала парахвія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе, штат Агаё. Першую Службу Божую адслужыў тут прызначаны Уладыкам Васілём сьвятар Яўфімій Якіменка дня 30-га сьнежня, 1951г.. Дня 3-га верасьня 1960 г. Высока- прэасьвяшчэнны Архіепіскап Васіль высьвяціў тут новапабудаваную мураваную Царкву, архітэктурна аформленую ў беларускім стылі. Дзякуючы вялікай ахвярнасьці вернікаў была яна прыгожа ўладжана і ў сярэдзіне прыгожым іканастасам і шматлікімі іконамі. Парахвія мела добрага дыякана ўв асобе а.Калістрата Савіцкага, які быў рукапаложаны яшчэ ў першай царкве Б.А.П.Ц. ў Розэнгайме, Нямеччына, а таксама выдатнага царкоўнага дырыгента Кастуся Кіслага. У пачатку 1961 году на стараньні парахвіі пераехаў сюды з Англіі а.Аляксандар Крыт, якога Арх.Васіль прызначыў сюды Кіраўніком Парахвіі. 7-га травеня, 1967 г., паўстала парахвія Сьвятога Духа ў Дэтройце, штату Мічыган. Ужо ў 1971 годзе парахвія гэта змагла набыць царкоўны будынак, дзе пачалі адбывацца Багаслужбы. 3-га ліпеня, 1973 г., была сарганізавана а.Карпам Старам парахвія Б.А.П.Ц. імя Сьвятой Тройцы ў Дароты, Нью Джэрзі. Дня 31-га кастрычніка, 1973 г., Кансысторыя купіла для гэтае парахвіі царкоўны будынак з дзялянкай зямлі.

Парахвіі Б.А.П.Ц. ўв Англіі: Пасьля рукапалажэньня а.Аляксандра Крыта у сан ерэя ў 1950 годзе, пачалі арганізавацца тут парахвіі Б.А.П.Ц.. — Сьвятога Спаса ў Братфордзе, Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстары, сьв.Міхаіла ў Нотынгаме. Сяньня гэтыя парахвіі абслугоўвае Мітрафорны Пратаерэй Ян Абабурка. Пазьней паўсталі парахвіі: Усіх Сьвятых у Лёндане, Нараджэньня Прасьвятое Багародзіцы ў Кембрыджы і Жыровіцкае Божае Маці ў Бірмінгаме —іх цяпер абслугоўвае а.Пратаерэй Ян Пякарскі.

Найбольшы росквіт Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на чужыне прыпадае на 1968 год, калі былі хіратанізаваныя на епіскапаў два архімандрыты: 15-га лютага архім.Андрэй (Аляксандар Крыт),а 10-га сакавіка архім.Мікалай (Міхаіл Мацукевіч). Абедзьве хіратоніі мелі месца ўв Аўстраліі. Такім чынам Б.А.П.Ц. да сярэдзіны 1970 году мела ў сваім Сынодзе чатырох Епіскапаў. Павялічыўся таксама і асабовы стан сьвятарства. Былі высьвечаныя ў

сан ерэяў: а.Васіль Кендыш, а.др.Віктар Войтанка, а.Карп Стар, а.Ян Абабурка, а.Ян Пякарскі, а.Васіль Чычэліс, а.Максім Таўпека, а.Расьціслаў Войтанка і а.Аўген Сітнік.

За ўвесь гэты час адышлі на вечны супакой: мітр.прат.Хведар Данілюк, мітр.прат.Сьцяпан Войтанка, мітр.прат.Міхаіл Шчурко, а.Васіль Чычэліс, архіепіскап Васіль (Тамашчык)дня 6 чэрв.1970 г., архіепіскап Сергій (Охотэнко) дня 2 кастр.1971 г.. Пасьля сьмерці Першагерарха, арх.Сергія, кіраўніцтва Б.А.П.Ц. паводле старшынства пераняў Арх.Андрэй.

У 1971 годзе Сабор Епіскапаў пастанавіў склікаць 2-гі Звычайны Сабор Б.А.П.Ц., які і адбыўся ў дні 27, 28, і 29-га травеня 1972 году ў царкве Парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку,Н.Дж.. Старшынстваваў на Саборы Арх. Андрэй. Згодна Статуту БАПЦ, прынятага яшчэ Саборам 1942 г., пар.10, на прапанову епіскапа Мікалая Сабор аднагалосна выбраў Мітрапалітам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Высокапрэасьвяшчэннага Андрэя (Крыта). У далейшым, Сабор прыняў новы Статут Б.А.П.Ц., а таксама выбраў Раду Б.А.П.Ц. і Кансысторыю.

Пасьля Сабору Ўладыка Мітрапаліт Андрэй выслаў да Ўсяленскага Патрыярха ў Канстантынопаль мэмарыял з паведамленьнем пра існаваньне і дзейнасьць Б.А.П.Ц. на чужыне. Таксама былі павядомленыя іншыя Патрыярхі і Праваслаўныя Цэрквы. Ад таго часу што-году Ўладыка Мітрапаліт Андрэй абменьваўся сьвяточнымі віншаваньнямі на Раство Хрыстовае і Ўваскрасеньне з усімі Патрыярхамі (апрача Маскоўскага...) і з многімі Мітрапалітамі ды іншымі Праваслаўнымі Ўладыкамі. Калі у Істамбуле упакоіўся ў Богу Яго Сьвяцейшасьць Усяленскі Патрыярх Атэнагорас I, ад Б.А.П.Ц. быў высланы спачувальны ліст, на які Ўладыка Мітрапаліт атрымаў сардэчную падзяку. Усё гэта выяўна пацьвярджае, што кананічнасьць нашае Сьвятое Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Усяленскім Патрыярхам, ані іншымі, ніяк не аспрэчвалася, бо Яе існаваньне і дзейнасьць заўсёды былі строга ў згодзе з канонамі і правіламі Сьвятое Праваслаўнае Царквы ды з вялікімі традыцыямі нашае гістарычнае Царквы на Бацькаўшчыне.

З прычын нецяжкіх да зразуменьня існаваньне Б.А.П.Ц. на чужыне ня вельмі падабаецца суседзям Беларусі, як усходнім, так і заходнім. Таму незадоўга пасьля Яе адраджэньня пачаліся спробы прычыніць ей шкоду, выклікаць закалоты. Пасьля адыходу ў вечнасьць мітр.прат.Хведара Данілюка ў 1960 годзе, у Катэдральным Саборы сьв.Кірылы Тураўскага ў Брукліне служыў сам Уладыка Васіль, які пачаў шукаць сабе ў помач дыякана, ці сьвятара. Толькі ў 1964 г. зьявіўся да яго дыякан, які назваў сябе а.Юрым Абрэмскім. Ён адкрыта прызнаўся, што дасюль знаходзіўся ў юрысдыкцыі



Маскоўскага Патрыярхату. Гэта насцярожыла Ўладыку і ён не сьпяшыў прымаць гэтага няпэўнага чалавека. Усё-ж на ўсіленыя просьбы людзей, асабліва паляшукоў, ён быў змушаны Абрэмскага прыняць і яны пачалі служыць разам у Саборы. Але хутка выявілася, што паводзіны дыякана Юрыя не адпавядалі нормам сьвятарскага сану. Мала таго, пры помачы чаркі ён пачаў уплываць на некаторых сяброў Парахвіяльнае Рады і падбурваць іх супроць свайго Епіскапа. Гэтыя людзі пачалі дамагацца ад Уладыкі Васіля, каб рукапалажыў дыякана Юрыя ў сан ерэя, што, дзеля супакоеньня іх, Уладыка ўрэшце і згадзіўся зрабіць.

Будучы ўжо сьвятаром, а.Юры пры помачы сваіх кампаніёнаў пачаў рабіць нягодныя інтрыгі і выступаць адкрыта варожа супроць Уладыкі Васіля. На гэтай глебе ў 1968 г. паўстаў адкрыты бунт, калі частка вернікаў, падбураная Абрэмскім і К.Мерляком, недапусьціла Ўладыкі Васіля ў Сабор, а служыць пачаў адзін Абрэмскі. Тады Ўладыка Васіль, як Епархіяльны Архірэй, за гэты ганебны ўчынак пакараў вінаватых сяброў Парахвіяльнае Рады адлучэньнем ад Б.А.П.Ц., а Абрэмскага забараніў у служэньні і пазбавіў сьвятарскага сану. Калі пакараныя далей сілаю блякавалі ўваход у Сабор, Уладыка быў змушаны перадаць справу ў сьвецкі суд, які прызнаў права ўласнасьці на будынак за Б.А.П.Ц. і забараніў збунтаваным перашкаджаць Уладыку Васілю ўв адміністраваньні ім і ў Багаслужбах. На гэта Абрэмскі, К.Мярляк і кампанія пакінулі Б.А.П.Ц..

У нядзелю 21 травеня, 1967 г., Уладыка Васіль рукапалажыў у царкве Жыровіцкае Божае Маці верніка Міхаіла Страпка ў сан дыякана.

У суботу, 9 сьнежня, 1967 г., у царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку,Н.Дж., Уладыка Арх.Васіль рукапалажыў у сан дыякана сп.Васіля Кендыша, а ў нядзелю 10-га сьнежня, ў Катэдральным Саборы сьв.Кірылы Тураўскага ў Брукліне, рукапалажыў яго ў сан ерэя, з прызначэньнем служэньня ў гэтым Саборы. Калі 26 чэрвеня, 1968 г., адыйшоў у вечнасьць сьв.пам.мітр.прат.Сьцяпан Войтанка, Кіраўнік Парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку, Уладыка Васіль прызначыў а.Васіля Кендыша пераняць асірацелую Парахвію.

Такім прыблізна быў стан нашай Сьвятой Б.А.П.Ц. ў 1980 годзе, калі новы сьвятар-прыблуда, Яноўскі, стаў начале новага ў Ёй закалоту, уцягнуўшы ў яго навет епіскапа Б.А.П.Ц., з чаго вынікла пашырэньне спачатна лякальнага канфлікту аж на чатыры парахвіі і яго паглыбленьне. Як і першы закалот, гэты таксама хутка апынуўся ў сьвецкіх судох, дзе вось ужо каторы год нячыстая сіла блякуе яго разьвязку. Паколькі справа гэта такая яшчэ сьвежая, такая для ўсіх

(працяг на б.30)

# ПРОПАВЕДЗЬ ПЕРАД МАЛЕБНАМ У ЧЭСЬЦЬ 25-га САКАВІКА

Сяньня мы адзначаем 68-ую гадавіну Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. 25-га сакавіка, 1918 г., у Менску Беларускі Народ аб'явіў сваю волю да незалежнага дзяржжаўнага жыцьця, выбіраючы дэмакратычны лад праўленьня.

Большыя варожыя сілы не далі магчымасьці Ўраду БНР замацаваць свае парадкі ў роднай дзяржаве. Ворагі з усходу і з захаду хутка занялі Беларусь і яна была падзелена паміж камуністычнай Расеяй і Польшчай. Кожны акупант, каб заспакоіць Беларусаў, абяцаў ім права на вольнае разьвіцьцё свае культуры і рэлігіі, але гэта хутка пайшло ў забыцьцё.

З савецкага боку меў месца жорсткі прасьлед Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы, якая адрадзілася была ў 1922 годзе на Саборы ў Менску. Мітрапаліт Мэлхісэдэк і ўсе герархі ды духавенства разам з тысячамі вернікаў былі зьнішчаны. Агульны разгром беларускае культуры і яе дзеячаў пачаўся ў канцы 20-тых гадоў і ня спыняецца па сяньняшні дзень.

Расейскія камуністы ў супрацьвагу да БНР ў 1919 годзе аб'явілі ў Смаленску сваю Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, але хутка пасьля яе аб'яўленьня вялікую частку Ўсходняе Беларусі разам са Смаленскам далучылі да свае Расейскае Савецкае Фэдэратыўнае Сацыялістычнае Рэспублікі.

Палякі таксама абяцалі даць свабоду Беларусам разьвіваць сваю культуру і рэлігію, але нядоўга прышлося чакаць, пакуль яны пачалі зачыняць усе беларускія арганізацы і школы ў Заходняй Беларусі. Перад самай Другой Сусьветнай Вайной Палякі пачалі зачыняць праваслаўныя цэрквы, уводзіць польскую мову ў цэрквах, насаджаць сярод Беларусаў вуніяцтва і рыма-каталіцтва.

Нашым сьвятым абавязкам ёсьць ушаноўваць урачыста гэты вялікі дзень у гісторыі нашага паняволенага Народу. У нашых шчырых малітвах да Бога мы павінны не зыбывацца на ўсіх нашых вялікіх дзеячаў культуры, ды ўсіх герояў і змагароў за волю і незалежнасьць Беларускага Народу.

Будзем-жа шчыра прасіць Бога Ўсемагутнага, каб прысьпяшыў надыход таго сьветлага дня, калі Народ наш стане ўрэшце поўным гаспадаром у Вольнай і Незалежнай Беларусі, ды каб наша Сьвятая Белларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква стала пераможнай нятолькі тут, але і на ў сіх землях роднай Беларусі.

З намі Бог — разумейце народы! Амін.

†Мітрапаліт Ізяслаў



Паўлюк Верны

# ЗАБАЛЕЛА...

Даўней жылося раўней..., кажа старая пагаворка. А ў справах царкоўных калісь жыцьцё было запраўды больш упарадкаваным, прынамся кажны ведаў сабе месца. Сяньня-ж, асабліва тут на зямлі амарыканскай вольніцы, усё пераблыталася — кажны невук уважае сябе за экспэрта ўва ўсіх справах і ўсюды суне носа.

Так яно ёсьць і з тым „літаратарам" з Таронта, Акулам, як гэта было паказана ў нашым артыкуле „Каб усе ведалі..." (гл.Голас Царквы нр.57). Але гэта ўжо стары стаф, як кажуць Амэрыканцы. А вось толькі-што паявілася яго чарговая пашквіль-лятучка „Царкоўныя Навіны" (нр.2(27) , сакавік, 1986) і ў ёй новыя чудзеса... Галоўная пэрла сярод іх азагалоўлена „Даносы". Тут нягоднік працягвае сваю гнусную работу на службе сатаны — далей беспадстаўна атакуе Мітрапаліта Б.А.П.Ц. Ізяслава, хоць у папярэднім артыкуле дасталося яму за гэта ня мала.

Папрасьцяцку нападае ён на Мітрапаліта за тое, што выканаў свой архіпастырскі абавязак, злажыўшы на імя Грэцкага Экзарха ў ЗША, Яковаса, пратэст-рапарт з адпаведнай інфармацыяй, што на Квінсе ў Нью-Ёрку, у царкоўцы г.зв.мерлякоўцаў (адшчэпнікаў ад Б.А.П.Ц., якіх К.Мярляк завёў у грэцкую юрысдыкцыю) пачаў свае „службы" былы сьвятар Б.А.П.Ц., расстрыга Яноўскі з Гайленд Парку,Н.Дж.. (гл. ліст на б.22). Удзячны Экзарх неадкладна спыніў беззаконную прадзелку бунтаўшчыкоў і пагнаў нягодніка прэч з падлеглай яму парахвіі. Вось што забалела дзядзьку Акулу!

Толькі ня думайце, дарагія, што пра ўсё гэта вы даведаецеся з яго пісаніны пад загалоўкам „Данос". Дзе там! Ён толькі палажыў перад сабой копію таго страшнага „даносу", а што ў ім напісана, пра тое ні слоўца... Пабаяўся крануцца праўды, круцель... Каб замыліць людзям вочы, ён расьпісваецца тут пра нешта зусім іншае: пралівае кракадзілавы сьлёзы над адшчэпнікамі. Бачыце, нейкія там асірацелыя „вернікі БАПЦ" — хто яны, нічога бліжэй ня кажа — якіх сьмяротна абразіў айцец В.Кендыш, выйграўшы супроць іх справу ў судзе, у помсту за тую абразу сталі на забастоўку: адмовіліся хадзіць на Багаслужбы ў Сабор сьв.Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Вось тыя бедалагі, акінутыя ўсімі „вернікі БАПЦ", дагаварыліся з „гаспадаром" Мерляком, каб з ласкі свае дазволіў ім, бяздомным скітальнікам, хадзіць у тую яго грэцкую царкоўку на Квінсе, ды маліцца хоць з тым праворным „сьвятаром" Яноўскім, што служыў там раз у месяц. „Гаспадар" Мярляк, рэч ясная, тут-жа згадзіўся памагчы ім. А чаму не, яму-ж і гонар немалы: ён-жа самы першы „ўцякач" з таго паляшуцкага Сабору ў Брукліне і дакладна па тэй самай прычыне —



Most Rev. Metropolitan Iziaslav, Primate
Byelorussian Autocephalous Orthodox Church
St. Cyril of Turov Cathedral
401-403 Atlantic Ave., Brooklyn, N.Y. 11217
Tel. 212-858-4560

No.: 1/86 Date Jan. 9, 1986

His Eminence
Archbishop Iacovos,
10 East 79th Street,
New York, N. Y. 10021

Dear Brother in Christ, Archbishop Iacovos:

We are informed that our former priest, Alexander Janowski, who was defrocked by our late Metropolitan Andrew, is presently serving as a priest in a Byelorussian parish on 104-29 Atlantic Ave., Richmond Hill, N. Y. which belongs to Your jurisdiction.

He was defrocked for very serious misdeeds against our Church, namely, for dividing a parish, disobedience and insubordination to his Hierarch.

We are presently trying to oust him from one of our parishes by court litigation.

We kindly ask your help in subduing an anarchy in our Church.

Sincerely,

+ Metropolitan Iziaslav
Metropolitan Iziaslav

Copies to:
Most Rev. Metropolitan Philip
Most Rev. Metropolitan Theodosius

Ліст Мітрапаліта Б.А.П.Ц. Ізяслава да Грэцкага Экзарха ў З.Ш.А. Яковаса ў справа Яноўскага.



на векі абразіўся на сьв.пам.арх.Васіля, калі той выйграў судовую справу супроць расстрыжанага Ю.Абрэмскага, збунтаванага К.Мерляка і кампаніі. Як бачыце, цэлая эпапэя... з тымі „вернікамі БАПЦ”.

Дык вось якая кампанія спаўзлася ў тую грэцкую царкоўку ў Квінсе —адзін чорт варты другога... Не, ім сапраўды няпрыстойна ўвайсьці ў той велічны родны Сабор, у які шмат хто з іх улажыў сотні, а то і тысячы даляраў і колькі ахвярнае працы, а які сяньня стаіць і чакае на блудных сыноў сваіх... Не, не! Яны ніколі не адпусьцяцца, ніколі ня вернуцца... Ім сто раз лепш пайсьці да прыблуды, мізэрнага служкі сатаны, у мізэрную царкоўку, чымся ў свой Сабор, дзе што-нядзелі служыць іх зямляк-паляшук, прызнаны ўсімі, і тымі-ж Грэкамі, Мітрапаліт свае роднае Царквы — Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай. Нажаль, гэтыя няшчасьнікі сталі глухімі на голас сумленьня, на Голас Божы...

Але Бог звысока кіруе ўсім. Вось бачыце, дарагія, як яно сталася? Сталася рэч амаль непраўдападобная: пагналі Яноўскага! Тога самага Яноўскага, які тут горда пышыўся столькі год, не прызнаючы нікога над сабою, вычвараючы неімаверныя штукі, а якога ўсе баяліся, як агня... І ніхто ня верыў, што ён расстрыжаны — ды хто яго там расстрыгаў! Аж тут раптам выявілася, што гэта чысьцюсенькая праўда! Што ён ніякі сьвятар, што ўвесь час хлусіў Богу і людзям... А Уладыка Ізяслаў тут толькі выканаў свой архіпастырскі кіраўнічы абавязак: бяз гэтага ў Царкве запанаваўбы хаос — дакладна такі, які вось ужо шосты гадок, як царыць у трох амэрыканскіх парахвіях Б.А.П.Ц. па прычыне гэтага-ж ілжэ-сьвятара, ды таго саламянага „япіскапа”, на якога ’шчэ прыйдзе кара Боская.

Увесь гэты інцыдэнт тым добры, што ў ім Экзарх падцёр носа ўсім нашым бязглуздым „экспэртам”, у тым ліку і Акулу, якія лічаць, што царкоўныя каноны і правілы існуюць толькі па тое, каб іх абыходзіць круга, або і зусім ігнараваць.

*Ветліва просім усіх Беларусаў падтрымоўваць сваю Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву сваімі шчодрымі ахвярамі і сваёю прысутнасьцю на Богаслужбах, улучаючыся ў Яе актыўнымі працаўнікамі і ахвярадаўцамі.*

# З ПАРАХВІЯЛЬНАГА ЖЫЦЬЦЯ

## *ПАРАХВІЯ ПРЫ КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ сьв.КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ*

### КАЛЯДЫ:

Сьвятое Хрыстова Нараджэньне Парахвія адсьвяткавала належнымі адправамі, пачынаючы з нядзелі 5-га студзеня, праз Куцьцю і першы дзень Каляд. Божыя Службы былі асабліва ўрачыстымі дзякуючы суслужэньню з Уладыкам Мітрапалітам заўсёды радасна вітанага ў нас а.Пратаерэя Максіма Таўпекі. Хоць больш вернікаў зьявілася на Сьв.Літургію ў свабодную ад працы нядзелю, але і ў працоўныя дні Сьвят царква не пуставала і хор сьпяваў згадна ў дастатковым складзе.

### БАГАТАЯ КУЦЬЦЯ:

Дзеля немагчымасьці зладзіць Куцьцю, ці Калядні стол у Сьвяты, што прыпалі на працоўныя дні, нашае Сяструцтва зладзіла шчодры пачастунак у нядзелю, 12-га студзеня, хоць і напярэдадні, але называючы яго Багатаю (перадапавагодняю паводле ст.ст.) Куцьцёю. За смашныя і сытныя стравы ад усіх нас належыць гаспадыням вялікая падзяка.

### 35-я УГОДКІ ПАРАХВІІ:

У час сустрэчы на Багатую Куцьцю Парахвіяльная Рада адзначыла 35-я ўгодкі заснаваньня нашай Парахвіі. Сьпярша ўсьлед за Сьв.Літургіяй быў адпраўлены Малебен падзякі, а пасьля падчас бяседы сп.Б.Данілюк ув адмысловым звароце прыпомніў парахвіянам і гасьцям важнейшыя здарэньні з жыцьця Парахвіі за ўвесь час яе існаваньня.

### АРХІПАСТЫРСКІ ЮБІЛЕЙ:

На 22 студзеня г.г. прыпалі 60-я ўгодкі нараджэньня Я.М.Уладыкі Мітрапаліта Ізяслава. Карыстаючы з большага збору вернікаў на Вадохрышча, Сяструцтва з Гайленд Парку зрыхтавала ў царкоўнай залі шчодрую бяседу ў гонар нашага дарагога, ахвярнага і цярпеннага Архіпастыра. Падчас бяседы віталі юбіляра прадстаўнікі ад Рады Б.А.П.Ц. ды ад Парахвіяў у Брукліне і ў Гайленд Парку. Атрымаў ён таксама нямала пісьмовых прывітаньняў ад іншых Парахвіяў Б.А.П.Ц., грамадзкіх арганізацыяў і паасобных вернікаў.

Пасьля прывітаньняў і пасілкаваньня быў пастаўлены на стол традыцыйны каравай-торт і ўсе бяседнікі, ужо амэрыканскім звычаем, прапялі шаноўнаму юбіляру „Шчасны будзь дзень радзін, шчасны будзь дзень радзін, шчасны будзь Уладыка Вам дзень радзін!"



На заканчэньне Ўладыка Мітрапаліт падзякаваў усім за ўшанаваньне ягоных угодкаў, як бяседай, так і прывітаньнямі зблізка і здалёк, ды прырок, што і далей, як дасюль будзе стаяць непахісна ўв абароне Сьвятой Б.А.П.Ц..

Наапошку а.Прат.Максім ад сябе, а сп.М.Войтэнка ад усіх прысутных даручылі юбіляру падарункі, у іх ліку і пашыты ахвярнай працай сп.Ул.Сьлюўкі падрасьнік.

### 68-я ЎГОДКІ 25-га САКАВІКА:

У нядзелю, 30-га сакавіка, Парахвія адзначыла 68-я ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Усьлед за Сьв.Літургіяй узрушальны Малебен за вызваленьне зьняволеных адправіў Я.М.Мітрапаліт Ізяслаў. Асабліва кранальнымі былі словы канцавое просьбы Малебну: „Табе молімся..., каб... літасьцівым вокам глянуўшы на Тваіх людзей і Тваю спадчыну, зьмілаваўся над імі, ды над Краем іхнім, што апусьцеў праз нашыя няпраўнасьці і нявольным стаў ды палонным бязбожных; але будзь ласкаў даць яму зноў вярнуцца да даўняе свабоды..."

Пасьля Сьв.Адправаў у царкоўнай залі адбыўся прынагодны сход, які адчыніў заступнік старшыні Парахвіяльнае Рады, сп.Ул.Курыла прывітаньнем прысутных і зваротам пра Архіпастырскае благаславенства. Кароткае, але зьмястоўнае слова на тэму дня сказаў сп.П.Манькоўскі, зьвязваючы падзеі 1918-га году са слаўнай мінуўшчынай нашага Народу.

Далей, у месца мастацкай часткі, сп.Б.Данілюк прачытаў адпавядаючыя характару ўрачыстасьці ягоныя вершаваныя пераказы псальмаў 43, 73, 136, часткі 1-9 першага разьдзелу „ Ярэмавага галашэньня", ды пераклад з францускае мовы верша Люсі Мэрыйль „Шчасьлівы той, каго Ўладар, узноў зыйшоўшы на зямлю, застане ўдосьвіт на ціку..."

Сход закончыўся Архіпастырскім благаславеньнем ды прапяяньнем нашага нацыянальнага гімну.

## *АЎСТРАЛІЯ*
## *Парахвія сьв.Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне*

• У Сьвяты Вечар Куцьці і ў дзень Хрыстовага Нараджэньня наш слаўны гурток „Каліна", у якасьці традыцыйных калядоўшчыкаў, наведаў мясцовых суродзічаў, асабліва сем'і з людзьмі ў старшым

веку. Калядоўшчыкі апявалі-абвяшчалі раство Хрыста калядкамі ў беларускай і ангійскай мовах. З радасьцю трэба адзначыць, што



Мэльбурн, Аўстралія. Каляды 1985 г.
Гурток „Каліна": Зьлева направа стаяць: Барбара, Вера, Каця, Ірэна, Люба, і Лідзя. На перадзе Тамара.

ўсюды калядоўшчыкаў сардэчна віталі, шчодра дарылі, ды прасілі не абмінаць і ў наступным годзе. Зарганізаваны пры Парахвіі Б.А.П.Ц. з сямі маладых дзяўчат, гурток „Каліна" выконвае беларускія танцы і песьні, прымае ўдзел у міжнацыянальных і міжцаркоўных імпрэзах і так на свой лад рэпрэзэнтуе ўсю беларускую грамаду ў Мэльбурне.

• У нядзелю 12-І-1986 г. (30-XII-1985 ст.ст.), пясьля Сьв.Літургіі і Новагодняга Малебна, у прыцаркоўнай залі вернікі ў значнай колькасьці і ў прыемным настроі, пры добра застаўленых сталох ды ўпрыгожанай ёлцы, сустракалі Новы 1986 Год. Належыцца вялікі дзякуй нашаму Сястрыцтву за ўмела прыгатаваны пачастунак, а для гуртка „Каліна" за прыгожа сьпетыя калядкі і іншыя беларускія песьні, што навеела дарагія сэрцу ўспаміны з роднай старонкі... Пры тэй нагодзе Парахвіяльная Рада і Сястрыцтва ўзнагародзілі Настаяцеля шчодрым падарункам.

• Згодна з нашымі звычаямі і старой традыцыяй, пасьля Богаьзяўленьня а.Аляксандар наведаў хаты вернікаў з Ярданскай Вадою. Прыемна адзначыць, што суродзічы нашы стойка трымаюцца старых звычаяў і з радасьцяй вітаюць духоўніка ў гэты час.

• У дзень 9-га лютага адбыўся Звычайны Справаздачна-



Перавыбарчы Парахвіяльны Сход. Справаздачы паказалі, што за мінулы 1985 год Парахвія дабілася выдатных вынікаў. Была выбрана новая Парахвіяльная Рада на наступныя два гады, якой жадаем тут найлепшых дасягненьняў на дабро Царквы і вернікаў.

• 9-га сакавіка адбылася гадавая зборка нашага Сястрыцтва. З гадавой справаздачы відаць, што Сястрыцтва асягнула больш, чым можна было спадзявацца. У склад новага Кіраўніцтва Сястрыцтва ўвайшлі: Александрына, Кацярына, Ганна, Тамара і Ірэна. Бог ім у дапамогу!

• Дня 23-га сакавіка адзначаліся 68-я ўгодкі Акту 25-га Сакавіка. Пасьля Сьв.Літургіі і Малебна Грамадзянскіх Сьвятаў, у прыцаркоўнай залі вернікі і госьці частаваліся кавай і тортам, што прыгатавала Сястрыцтва, і выслухалі вельмі зьмястоўны рэфэрат. У мастацкай частцы выступіў хор гуртка „Каліна" з мілагучнымі беларускімі народнымі песьнямі —Рабіна, Расьцьвіталі васілёчкі..., Мароз, і інш.. А гадзіне 3-цяй па паўдні ў Беларускім Доме адбылася сьвецкая частка ўрачыстасьці.

## АНГЛІЯ
## Прыняцьце ў Арх.Кантэрбэрыйскага

У Лёндане, у Ламбэт Паляс, сядзібе Архіепіскапа Кантэрбэрыйскага, Першагерарха Англіканскае Царквы, штогод ладзяцца прыняцьці для епіскапаў і духоўнікаў розных Цэркваў, якія пражываюць і маюць свае парахвіі ў сталіцы Англіі. Сёлета ў такім прыняцьці, якое мела месца дня 20-га студзеня, 1986 г., прыняло ўдзел 90 асоб: 10 епіскапаў і 80 сьвятароў зрозных Цэркваў і дыпляматычных місіяў. Рэпрэзэнтантам Б.А.П.Ц. на гэтых прыняцьцях зьяўляецца а.Прат.Ян Пякарскі.

### 68-я Ўгодкі 25-га Сакавіка

Сьвяткаваньне 68-ай гадавіны Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25 Сакавіка, 1918 году, было адзначана сёлета ўв Англіі Малебнамі і сьвецкімі ўрачыстасьцямі.

У нядзелю, 23-га сакавіка, вернікі Парахвіі Б.А.П.Ц. у Нотынгам ушанавалі Дзень Незалежнасьці БНР супольнай Сьв.Літургіяй і Малебнам у царкве сьв.Мікалая. У падобным пляне адсьвяткавалі і вернікі Парахвіі Б.А.П.Ц. імя Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстары. Сьв.Літургію і адмысловы Малебен адслужыў тут Мітрафорны Пратаерэй Ян Абабурка ў нядзелю 30-га сакавіка.

Беларускі асяродак у Братфардзе адзначыў урачыстасьць „Веліч Акту 25 Сакавіка" па ініцыятыве Гуртка Васількі ў суботу, 29-3-1986 г., у памешканьні Галоўнай Гасподы Беларускай Незалежніцкай Думкі ўв Англіі. Урачыстую Сьв.Літургію і Малебен, з нагоды нацыя-

нальнага сьвята, адслужыў Мітр.Прат. Ян Абабурка у царкве Сейнт Чадс у нядзелю 6-га красавіка. Закончыўшы Малебен, а.Ян прачытаў сьвяточнае прывітаньне, прысланае Яго Прэасьв. Мітрапалітам Ізяславам, Першагерархам Б.А.П.Ц., якому з нагоды Нацыянальнага сьвята вернікі прапяялі „Многая лета". •

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ КРЫЖЫ

У праваслаўным сьвеце ўжываюцца дзьве формы царкоўных крыжоў:

1.Крыж сьвятога Андрэя Канстантынопальскага, першы 6-ці канцовы крыж Ерусаліму, Царквы азначаючае хрысьціян Новага Ерусаліму.

2.Крыж Антыяхійскі 8-мі канцовы, які пазьней прыняла Расейская Царква на Маскоўскім Саборы 1666-1667 г..

Як ведама з гісторыі нашай Царквы, на просьбу сьв.Еўфрасініі Полацкай, выдатны майстра Лазар Богша ў 1161 г. выканаў для яе 6-ці канцовы Ерусалімскі крыж, які лічыцца па сяньняшні дзень вялікай сьвятасьцю нашага Народу, хоць і не вядома, дзе цяпер знаходзіцца. З адраджэньнем нашае Царквы ён і стаў нашым, беларускім праваслаўным крыжам. •

## ХТО-Ж КАНАНІЧНЫ...

(працяг з б.12)

сталае жыцьцё ув Аўстралію, другі ўв Амэрыку і Б.А.П.Ц. стала рэальнасьцяй на абодвух кантынэнтах. Сам Бог, відаць, хацеў, каб мы ізноў займелі сваю ўласную Праваслаўную Аўтакефальную Царкву, бо памагаў Ёй шчодра ад самага пачатку і памагае па сяньняшні дзень.

А як-жа з тымі хрыплымі галасамі, што ўсё яшчэ сям-там галёкаюць супроць Яе кананічнасьці? Пасьля ўсяго, што сказана вышэй, якая патрэба зьвяртаць на іх увагу? Варта толькі астанавіцца хвіліну над адным канкрэтным пытаньнем: якія каноны рэгулююць працэс адтварэньня, ці аднаўленьня Царквы, пасьля Яе зьнішчэньня слугамі сатаны? Нажаль, мае пошукі ў гэтым кірунку не далі пазытыўных рэзультатаў —канонаў такіх, відаць, зусім няма, а гэта астаўляе вырашэньне справы да лякальнай кампэтэнцыі. Адно пэўна, што зьнявечыць і разбурыць Царкву Хрыстовую ёсьць адным з найцяжэйшых грахоў, якіх чалавек можа дапусьціцца... Затое падніманьне Яе з упадку і адбудаваньне мусіць дужа Богу міла... і таму Ён нам так спрыяе! Урэшце, калі гаварыць пра кананічнасьць у яе ўласьцівым значаньні, г.зн.кананічнасьць нашых епіскапаў і ўсяго



духавенства, дык яны такімі былі заўсёды і ніхто ім у гэтым сэнсе ніякіх закідаў ня можа рабіць. Зарубежнікаў і Маскву можам ігнараваць. •

# АБ СПОВЕДЗІ

(працяг з б.4)

словаў „хрысьціцца у Імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духха...", бо разам з гэтым ачышчаюцца ўсе грахі хрышчанага. Дакладна тую самую сілу мае разграшэньне духоўніка, з вымаўленьнем словаў „дарую і звальняю...", бо ў гэты мамэнт даруюцца ўсе грахі таму, хто каецца. Ад таго тое пакаяньне і называецца другім хрышчэньнем ды лазьняй абнаўленьня душы.

Як можа духоўнік мець такукю ўладу, калі так даравацьгрехі можа толькі адзін Усёведаючы, Усемагутны Бог? Гэта Божая ўлада даецца духоўніку Самым Богам, Госпадам Ісусам Хрыстом: напачатку гэтую Сваю Божую ўладу даў Ён Сваім вучням і апосталам і ад іх яна пераемна пераходзіць да ўсіх пастыраў Царквы Хрыстовае, да ўсіх духоўнікаў.

Так, духоўнік дарує грахі тым, хто каецца, не сваей уладай, але ўладай Ісуса Хрыста, Хрыстом яму данаю. І таму, калі ён дарує, гэта ўсёроўна, што сам Хрыстос дарує. Духоўнік на споведзі прадстаўляе сабой Ісуса Хрыста, даруючага грахі грэшніку, які каецца.

Як-жа гэта, за што Ісус Хрыстос дарує нам на споведзі грахі нашыя? Чым мы заслужваем на такое дараваньне? — спытаеце вы. А чым мы заслужылі на тое, што Хрыстос дзеля нашага выратаваньня з неба зыйшоў і за нашыя грахі папакутаваў, ды памёр? Вядома, нічым... Ісус Хрыстос усё зрабіў для нас праз адно Сваё чалавекалюбства; таму толькі зрабіў, што Ён ёсьць чалавекалюбны Бог, які любіць людзей і жадае ім збаўленьня. Таму Ісус Хрыстос і на споведзі дарує нам грахі праз адно Сваё чалавекалюбства — дарує за тое, што мы веруючыя людзі, Яго стварэньні.

Будзьце-ж, браты, на споведзі з поўнай упэўненасьцю, што грахі вашы даруюцца вам, калі толькі вы спавядаецеся з усей шчырасьцяй. Каб атрымаць дараваньне грахоў, выяўляйце ўсё, што ведаеце за сабой дрэннага — паказвайце сябе такімі, якімі вы ёсьць запраўды, нічым не выбачайцеся і ніяк сябе не апраўдвайце. На споведзі будзьце больш сьвядомымі і шчырымі і вам будзе лепш. Амін.



## ДА САРАКАЛЕЦЬЦЯ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ Ў ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ

(працяг з б.19)

нас балючая ды ўсё яшчэ ў працэсе яе вырашэньня, дэтальны яе разгляд прыходзіцца адлажыць да больш спрыяльнага часу.

На заканчэньне пару прыяцельскіх слоў: як мы ўсе добра ведаем, абодва закалоты ў Б.А.П.Ц., той з 1968 г., і гэты новы з 1980 г., паўсталі пад уплывам чужых людзей, якія, у выкананьне акрэсьленых заданьняў з боку тых, каму неабходна пашкодзіць нашай Царкве, або і зусім Яе зьнішчыць, бунтуюць людзей нашых супроць легітымных уладаў свае роднае Царквы. Гэта ясна ўсякаму, хто можа падняцца ад будзённых дробных спраў і глянуць на справы свае Царквы з вышэйшага гледзішча нашых агульна-нацыянальных інтарэсаў. Здольнасьць глянуць шырэй на ўсё, што ў нас сталася з Царквою ёсьць абсалютна неабходнай, каб нам неяк выблытацца з тае матні, у якую загнаў нас вораг. Гэта адно, а далей трэба нам таксама вярнуць усю належную пашану Сьвятой Царкве нашай, Яе служыцелям і Яе правілам ды ўстаноўкам, якіх ніхто ня можа ламаць, абыходзіць, ці ігнараваць бяскарна. Гэта ясна кажнаму чэснаму Беларусу, які бачыць круга, як усе гістарычныя народы дбайна і ахвярна руплцца пра галоўную астою свайго жыцьця, якой заўсёды была свая, родная Царква.

---

(1) А.Вінніцкі, Да гісторыі беларускае эміграцыі ў Нямеччыне 1939-1951, частка 2, Лёс Анджэлес 1968.

(2) А.Свитич, Православная Церков в Полще, ст.198-219.





# ЗЬМЕСТ